# ЗЬМЕСТ:

ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 ТЭЛ. № 17-09.

ЛІПЕНЬ 1931

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

№ 13



## Клінічны гарадок да 11 годзьдзя БССР




Фото Салавейчыка.



А Д Б У Д О Ў В А Е Ц Ц А   С Т А Л І Ц А   Б С С Р.   М Е Н С К.



Прыродазнаўчы корпус БДзУ. Менск

# да 11 гадавіны

**Верш А. ПРУДНІКАВА**

Глыбокую гадоў інтрыгу
Бары непраходныя таяць,
Вось яны,—
Гарбатыя, старыя
Крыўдзяцца і шэпчуць хвоі...

Вецер паўднёвы спацелы
Кудры іх шат качае...
На белым бярозавым цела
Расьселіся лісьцяў чайкі.

— Добры вечар,
шумлівы лес!
Я прышоў да цябе ізноў,
Ты тут вечна шуміш у мгле
Неразгаданым нейкім сном.

Раскажы аб героях сваіх,
Ўспомні, ўспомні іх добрым сказам...
Пра вялікія дні ў крыві
Пагамонім з табою разам.
Сёньня ліпень...
Высокі год
Беларусі Савецкай Вольнай!

. . . . . . . . . .

— Ты, поэт, у мяне ня госьць.—
Помніш сам героізм і войны...
Банды паноў-гандляроў
Выпівалі працоўных кроў.

Клалі ўпокат дубы,
Нельга таго аніяк-жа забыць!
Кожны мой дзень!
Кожны мой дзень,
Крывёй змагароў залацеў!—

Ішлі сюды з нізкіх сяліб
Змагацца за волю зямлі...

За залпам, другі залп,
Дрыжэлі галіны на хвоях,
Гэта тады партызан
Ахвяраваўся галавою.
Магілкі скрозь ля дарог
Прыгадалі мне твары сінія,
Вось і за гэтым, як кроў,
Лісты на руках асіны.

Кроплі з тых лісьцяў цякуць...
Раны.—залечыш іх чым?
Не на адным, брат, суку
Трупы віселі ўначы.

.. Я ведаю,
Скора і там—
За слаўнай мяжой Саветаў
Мусяць адзіна паўстаць
Нявольнікі
Ўсяго сьвету!

Тады ў сугалосьсях дуброў,
У лепетах сініх лісьцяў
Я буду шумець нутром
Вялікую
Песьню
Ісьціны!

Песьню, якую нясуць
Пад Ленінскім сьцягам узьнятым,
Песьню,
Якая яднае ўсю
Перамогу пралетарыяту!

* * *

Лес замоўк,
І я пашоў...
Натхненьне мае узьвейся—цесна.
Пераклаў я зялёны шопат
У страі зразумелай песьні...

Ал. Пруднікаў





**Адзін з карпусоў клінічнага гарадку** **Менск.**

# У дні 1920

**Нарыс С. Рыгораўскага**

Мы мала ведаем пра зарубежнае жыцьцё ў дні 1920 году, калі наша краіна знаходзілася ў ланцугу блёкады і сусьветны капітал адрэзаў нас ад усяго сьвету. Многа падзей, якія здараюцца зараз, шмат каму здаюцца навіной. Варта напомніць, варта паўтарыць некаторыя факты, некаторыя дэталі, каб у сьвятле гістарычнага мінулага нам лягчэй было разумець сёнешняе.

Нам вядома, што папа Пій XI зьяўляецца заклятым ворагам СССР. Мы гэта ведаем з яго сучаснай дзейнасьці. Быў час, калі сучасны папа Пій ня быў яшчэ папай, а быў усяго толькі кардыналам графа Рэці. Гэта было ў часы польска-савецкай вайны 1920 году. Тагочасны папа Бэнэдыкт XV прызначыў яго першым сваім нунцыям, г. зн. паслом у незалежную Польшчу. Адразу, як кардынал Рэці прыехаў у Варшаву, ён разгарнуў энэргічную дзейнасьць. Перш за ўсё ён узяўся за чыстку польскага духоўніцтва, асабліва сярод вышэйшых іерархаў, якія былі настроены супроць Пілсудчыны. Яны баяліся Пілсудзкага, лічачы яго „соцыялістам". Але Ватыкан лепей ведаў гэтага „соцыяліста" і граф Рэці глядзеў на яго, як на „апору хрысьціянскай цывілізацыі на ўсходзе Эўропы". Гэткая політыка зблізіла, бязумоўна, Рэці з Пілсудзкім і паклала пачатак таму „сяброваньню", пра якое гэтак любяць гаварыць цяпер польскія журналісты.

Калі хто хоча больш дакладна азнаёміцца з гэтым „хаўрусаваньнем", дык мы маглі прывесьці тэкст дагавору „намесьніка хрыста зямлі" з польскім урадам, дзе дэтальна вылічана, колькі „намесьнік хрыста" атрымоўвае за хаўрус і што ўзамен дае каталіцкая царква.

Мы-б тады пабачылі, што народ плаціць кардыналам па 1825 злотых, у месяц, архіэпіскапам па 1297 злотых (бачыце, якая дакладнасьць: ня 1300, а 1297). Складзена была таксама дакладная ведамасьць на аклады ксяндзом, званаром, сэмінарыстам. Нават не забыліся пра ксяндзоў інвалідаў, якія браліся на дзяржаўны кошт.

Узамен паскуднага мэталю папа рымскі згадзіўся, каб эпіскапы, уступаючы на пасаду, давалі гэткую прысягу:

„Перад богам на сьвятым эвангелі прысягаю і абяцаю, як падабае біскупу, вернасьць Польскай рэспубліцы. Прысягаю і абяцаю, што з поўнай лёяльнасьцю буду паважаць урад, вызначаны конституцыяй, і апрача таго зраблю так, каб яго паважала мае духоўніцтва. Апрача таго прысягаю і абяцаю, што ня буду прымаць удзелу ні ў якой згодзе, ня буду прысутнічаць ні на якіх сходах, якія маглі-б прынесьці шкоду польскай дзяржаве або дзяржаўнаму парадку. Не дазволю майму духоўніцтву прымаць удзел у гэткіх пачынаньнях. У клопатах аб дабры і інтарэсах дзяржавы буду старацца адводзіць ад яе небясьпекі".

Вы ўспомнілі мо' пра куляметы, якія ў 1920 годзе стралялі са званіц касьцёлаў?

Вы ўспомнілі мо' паўстанцкія атрады, якія вылазілі з склепоў касьцёлаў, у часе якога-небудзь замяшаньня на фронце Чырвонай арміі?

Вы ўспомнілі мо' польскія вайсковыя організацыі, якія ствараліся ў 1920 годзе ў касьцёлах Меншчыны, Магілеўшчыны, Аршаншчыны?

Гэта—польскае духоўніцтва сумленна выконвала дагавор папы з Польскай рэспублікай, што каталіцкая царква верай і праўдай служыць будзе польскаму ваяўнічаму імпэрыялізму і яго шаленай нянавісьці да Саветаў.

Падпісаўшы ў 1920 годзе „хаўрус" з Пілсудзкім, Нунцый пачаў супольную з ім працу па абароне хрысьціянства на ўсходзе Эўропы... З гэтай мэтай у Варшаве створаны былі, між іншым, спэцыяльныя курсы для ксяндзоў, пад кіраўніцтвам аддзелу польскага генштабу, г. зн. усім вядомай „дэфэнзывы". Гэтыя курсы неўзабаве пачалі ахапкамі перакідваць на савецкую тэ-



**Папраўка.**

Па віне карэктуры ў № 11—12 „Ч. Б." у артыкуле М. Алехновіча „Поэзія БелАПП'у на пераломе" (ст. 5) дапушчана памылка. У сказе „Некаторыя з іх ужо сёньня становяцца значнымі пролетарскімі пісьменьнікамі" трэба чытаць (у дужках) замест Зарэцкага—Зарыцкі.



## УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД РАБСЕЛЬКОРАЎ

На здымках: справа ўверсе—выступленьне т. ГЕЯ на ўсебеларускім зьезьдзе рабселькораў, ніжэй—ГУСЕЎ КУРЦІК, БУДЗІНСКІ, зьнізу—на пасяджэньні. Пасярэдзіне зьверху—прэзыдыум зьезду рабселькораў, унізе, працоўныя вітаюць зьезд рабселькораў. Зьлева ўверсе—БАБІНЕЦ (ЦК КП(б)У), унізе—спатканьне на вакзале.

**(ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ)**

# Поэзія

## ВЕРШЫ ЎЛАДЗІМЕРА ХАДЫКІ.

### АД ПРАЎД МАЁЙ ЖЫЦЬЦЁВАЙ СТРОМЫ

Упала кропля на пясок—
Раса ці дождж—не прыгадаю.
Тваю душу я прывалок
На допыт узьвесьненаму краю.

Ў суцень бурыліся платы,
Рыдалі совы, як вар'яты.
І поўзаў нэндзаў галіты
Па ўзгор'і смутак перакляты.

Быў на душы маёй агонь
Жывых нявыказаных казак.
Ў маёй руцэ твая далонь
Цурчэла вільгацьцю абразы.

Вяла ты дзікую мораль,
Гуляла ў княжацкую веліч.
Пайшоў я (зганьбены амаль)
Ад хцівай сквільні гутарэляў,

Пайшоў ад крыўдных сноў і смаг
І (з праўд маёй жыцьцёвай стромы)—
Цябе пазбавілі паваг,
І (разам) блізкіх і знаёмых.

Ўсяўладнай лучнасьцю правоў
Паўстаў з імглы народ жабрачы.
Час вас да сумных карт прывёў.
Час вашу радасьць раскулачыў.

І вы брыдозным тлом чаргі
Імкнеце з гнёзд (сваіх калісьці)...

Каб ў дальніх закутках—тугі
Агрызак збэшчаны дагрызьці.

Каб стаць адценьнем прошлых шат,
І спарахнелым шоўкам строяў
Зьбіраць ў залётны панарад
Былой романтыкі герояў.

Ты не адна—іх дужа шмат
Праз ўласны сквіл ідуць у пары.
І радасна, што ў ковах крат
Сядзяць падпанкі і жандары.

І весела таму душы,
Што мы зьмяняліся на ролі..
Сьліхота—што ты ня пішы—
Ў наш край ня вернецца сваволіць.

Сьліхоту выпаліў пажар
І заедзь злую белай косьці...
Твой паблажэў дарэшты твар,
Мой ў самым часе прыгажосьці.

І я увесь, як ёсьць, я сам
Расту гр..нём у вяршынях стадый.
Мая магутная краса
Бярэ пачуцьцяў вадаспады.

І ў час, калі (маленьнем зор)
Вію я нэрвы на вяроўкі—
Ты топчаш жытні перабор,
Ты ходзіш нават без сяброўкі.

Ў тваіх вачох інакшы сьвет,
І, як адданая нябога,
Сваім выгнальнікам усьлед
Глядзіш ты сумна на дарогу.

* * *

Пад сукрыстаю кволай расьлінай,
Дзе ускопаны жоўты пясок,
Вецер лютаўскі поўсьці асьлінай
Адусюль шкуматоў навалок.

Падыходзілі з боку шакалы,
Падвывалі з балота ваўкі...
Веліч дзікая іх падупала,
Адслужылі свой тэрмін клыкі.

І пабеглі за багну ад жаху
Дзікіх мэс і сваволства цары,
Каб ня бачыць апошняга шляху.
Каб ня чуць негаданай пары.

І ў прамежках брыжовых адтулін,
Ў дбайнай нэньдзе сваіх спасьцярог,—
Аддаюць на астатнія гулі
Старадаўнюю славу бярлог.

Паблажэлі зьвярыныя твары,
Вочы сумам глухім заплылі...
Ня гуляць ужо ім па абшары
На агнёх ўзбунтаванай зямлі.

### ПРОЦІ ЯСНАГА СОНЦА

Проці яснага сонца
Дні пасталі вялікай чаргою.
І лірычнай балонцы
Далікатных ня бачыць прастояў.

Далікатная немач
І прогулы пагардлівых крокаў—
Папятрэлі ў бярэмах,
Пазгаралі ў скварах амокаў.

Разьвінуліся сьцежкі,
Павыросталі ў торы-дарогі.
Разьмінуліся рэшткі
Маніякаў, пракрокаў бязногіх.

Ні карчмы, ні батлейкі
Для крыві не знайсьці ім разгульнай,
Ладам таннай падзейкі
Ня ступіць на разбой ўсеагульны.

Толькі ў прыцем, як вусень,
Хто дзе выпаўзе ў сонным затоне,—
Падуладны спакусе,
Ў (мэркантыльных благаньняў) палоне.

Яго постаць худая
Ляжа ніцма абрыдлівым трупам.
На яціць чорным баем
І груган, яго сябра і супар.

З хцівай казкай на дзюбе,—
Ён крылом памачле жалобе,
Ён заплача аб згубе,
І аб высілках у страчанай спробе.

Ў зрыўку срэбранай тогі,
Як двацатага веку патрыцый,
Да кашчавай нябогі
Выйдзе Езус з пачварнай бажніцы.

Ў паламанай карэце,
Хто жыве, хто памёр за нягоду,
Перад ёй, перад сьмерцю,
Ўзвыюць раці сьвятых ваяводаў.

Хмелем прошлых забойстваў
Будзе голавы княскія гойдаць,
Толькі дзікага войска,
Толькі ратнікаў болей ня знойдуць.

Не даедуць удвору
На заўчаснай старэчай утоме.
І ўсе разам ад гора
У вэр'яцкім дакерхаюць доме.

Гарады і асмуглыя хаты
Сталі сілай пагрознай—
На шкілетах сучасных магнатаў,
На касьцёх Брацiславiчаў розных.

Да суладзьдзяў адзiных
Вышлі людзі ўсіх земляў і нацый...
Хрыпне сьпеў лебядзіны
Абхаўтуранай зграі палацаў.

Моўкне вэрхал бясконцы
На кавалках разьбітых скрыжаляў...
Проці яснага сонца
Дні чаргою адплатнай пасталі.







Зьдзельная праца ў колгасах дала добрыя вынікі.

# ПАНСКАЯ АРЫТМЭТЫКА

Апавяданьне
Г. ГЮГЕРА

I

Шырокаплечы і доўгавязы, з высунутым, як у каня, тварам і спрыткімі рукамі-лапамі, у адной з якіх ён заўсёды трымаў бізун—такі портрэт пана Кабылінскага, польскага паліцэйскага і даверанай асобы аднаго з буйных памешчыкаў Заходняй Беларусі.

— Кабыла ідзе, кабыла!—шэпатам перадавалася з хаты ў хату, калі пан Кабылінскі, расфранчаны і ня ў меру напамажаны зьяўляўся на адной з ваколіц вёскі. І сяляне, за выключэньнем багацеяў, сьпяшаючыся, разьбягаліся па хатах, хаваліся ў клецях і ў скляпох. Таму, што лепш не сустракацца на вуліцы з панам Кабылінскім, бізун якога вельмі балюча б'е, калі ўласьнік яго ня ў духу. А хто-ж можа наперад сказаць ці ў духу сягоньня пан Кабылінскі, ці не?

Так і сёньня чарнейшы за хмары ідзе пан Кабылінскі па вёсцы. Ідзе і бізуном па паветры махае.

— Ты што-ж, Васіліса Пятрова, усё яшчэ ад сваіх бальшавікоў лісты атрымліваеш?—грозна пытае ён жанчыну, якая з вёдрамі ідзе па вуліцы.

— Я, паночку?—зьдзіўлена перапытвае Васіліса.—Які ліст, ад якіх гэта такіх бальшавікоў?

— Чаго дурною прыкідваешся?—замахнуўся бізуном на жанчыну Кабылінскі:—з Савецкага Саюзу, ад маскалёў гэтых чырвоных, няўжо ня было табе ўчора ліста?

— Ад дачкі маёй, што пад Менскам з мужам жыве, дык было, паночак,—адказвае, кланяючыся ў пояс, Кабылінскаму Васіліса.—Учора прынесьлі ліст...

— А муж дачкі напэўна комуніст, комісарнічае!?—з агідай заўважыў Кабылінскі.

І не атрымліваючы адказу, ад не на сьмех перапалоханай сялянкі, ён грозна працягваў:

— Глядзі, Васіліса, не давядуць цябе да дабра бальшавікі. Прыдзецца табе напэўна скора пазнаёміцца з „пастарункам" [1])... Чаму ўчора ў панскім лесе дровы зьбірала? Дазвол маеш?

— Ды што вы, паночку, я панскіх дроў нават і ня бачыла,—залепятала, ад грознага і дзікага страху сялянка.—Дзе мне беднай удаве з маленькім дзіцем на руках такую справу рабіць—лес у панскім лесе рубаць? Памілуй божа!..

— Хлусіш, сука,—накінуўся на жанчыну паліцэйскі і балюча выцяў бізуном па сьпіне.—Сам бачыў, як учора дровы з лесу вывазіла!

— Ды і каня-ж у мяне няма, паночку,—плакала жанчына.—Яшчэ ў мінулым годзе здох. Можа помніце, шэранькі такі быў...

— Каня сусед даў... Сам бачыў,—не саромячыся працягваў паліцэйскі.—Ідзем у „пастарунак" пратакол складаць. Пан судзьдзя цябе навучыць, як панскага дабра не шкадаваць!

Пятнаццаць злотых заплаціць памешчыку загадалі Васілісе, хоць панскіх дроў у яе на дварэ ня было, хоць яна і даказвала, што крадзяжом панскіх дроў у лесе памешчыцкім не займалася. Але які судзьдзя ў Польшчы можа паверыць сялянцы, калі паліцэйскі сьцьвярджае супроцьлеглае? А абліва ўдаве, якая ня мае каня, дачка якой жыве са сваім мужам за польскім рубяжом—у савецкай стране? Бязумоўна, ніводзін судзьдзя, які нават паважае сябе, не паверыць.

Вядома, што ў Васілісы пятнаццаць злотых не знайшлося, дык ёй і прышлося на старасьці сваёй ісьці працаваць у маёнтак, сваім горбом адрабляць несправядліва накладзены „справядлівым" судзьдзёй штраф.

II

Доўга адрабляла Васіліса сваіх пятнаццаць злотых у пана. Пасьвіла сьвіней, мыла ў палацах вокны, наогул гаспадарка панская вялікая, і работы хапала ўсюды.

— Заўтра прыдзеш яшчэ папрацаваць,—ня разказала вечарам панская экономка Васілісе.—Заўтра кабаны калоць будзем (справа была пад каляды)—дык дапамагчы трэба будзе...

— Добра, пані,—адказала на гэта Васіліса, хоць гэтыя запрашэньні паўтараліся ўжо некалькі разоў, хоць запазычанасьць пятнаццаць злотых ужо даўно павінна была-б быць адпрацавана ёю.

— Можа заплоціць пан Гелер (так звалі памешчыка) пару злотых за работу,—думала Васіліса.—Угаспадарцы вунь як прыгадзіліся-б!

— Дык што, Васіліса, можа палічымся?—спыталася аднойчы сялянку панская экономка.

— Добра—пані... давайце палічымся,—згадзілася Васіліса, падлічваючы пра сябе ці можна будзе на лішнія грошы купіць сыну боты, або яшчэ дадаць што-небудзь давядзецца.

— Тады ў суседа пазычу,—па-гаспадарску думала Васіліса.—Бяз ботаў Міколку быць аніяк немагчыма.

— Заработала ты ў мяне чатырнаццаць з паловай злотых, а пятнаццаць злотых ты вінна за лес... Дык вось яшчэ пяцьдзесят грошай з цябе належыць—падлічыла экономка.

І закрываючы рахункаводную кнігу, строга дадала:

— Рабсты больш у мяне няма для цябе ў маёнтку... Каб заўтра-ж унесла пяцьдзесят грошай у панскую касу. Чуеш, Васіліса?

— Дык дзе-ж я вазьму грошай, пані?—горка плакала Васіліса,—Работала, работала і каб пятнаццаць злотых не заплаціць... Грэх, пані Марыля, гэтак з беднай жанчынай абыходзіцца!

— Яшчэ будзеш гутарыць!—раззлавалася экономка.—Пайшла вон з двара, а не, дык загадаю сабак з прывязей пусьціць... Дык каб заўтра-ж 50 грошай прынесла, а не, дык даражэй абыйдзецца.

Нудна было на сэрцы і ў Васілісы. Дзе ўзяць 50 грошай праклятаму пану? Завошта купіць боты Міколку?

III

І пачалося...

Пан дадаў у суд, патрабуючы спагнаньня з Васілісы 50 грошай. І ўсё таму, што Васіліса надарвалася на рабоце, цяжка захварэла і не змагла ў вызначаны час заплаціць пану яго паўзлота.

Суд быў хуткі і „справядлівы". 50 грошай павінна заплаціць Васіліса памешчыку і... 70 злотых штрафу ў карысьць войта і старасты [2]). Бо прыяжджаў-жа стараста ў вёску зрабіць допыт у старой хворай сялянкі. І за гэта трэба плаціць: 5 злотых з кілёмэтру „командыровачных" да за хурманку паводле палажэньня. Толькі вось у другіх краінах усё гэта аплочваецца дзяржавай, а тут вось, кішэняй беднякоў-сялян. Што-ж, так напэўна лепш... панам, ды паліцэйскім...

— Мілыя мае, ды што-ж гэта?—горка плакала Васіліса выходзячы з залі суда.—Невінавата я, далібог, невінавата. А тут яшчэ 70 злотых... Ай, бацюшкі...

— Панская арытмэтыка, цёценька,—сказаў ёй у адказ Бондар—селянін той-жа самай вёскі, адкуль і Васіліса.—Па-панску выходзіць так правільна, а па-нашаму, ня так! Але, хай сабе, ня сумуй, цёценька! Як-небудзь пражывем...

І нахіліўшыся да Васілісінага вуха, сьпяшаючыся зашаптаў.

— Прыходзь да мяне ў хату, цётка Васіліса, у наступную нядзелю. Навіны ёсьць, хоць душу адвядзем...

... Праз тры дні, згодна пастановы суду, Васіліса была выселена з сваім сынам Міколкам з хаты. Хата і апошняя худая карова былі прададзены з таргоў за 70 злотых і 50 грошай. 50 грошай пайшлі ў кішэню пана памешчыка... А 70 злотых разьмеркаваліся па кішэнях: войтаў, судзьдзяў і старостаў.

IV

Нахіленыя галовы уважліва сочаць за лістом паперы, на якім каруздыя, нязвыклыя да пісаньня, рукі выводзяць карузлыя па выглядзе, але залатыя па сэнсу літары... Дыміць лучына, сваім то патухаючым, то зноў успыхваючым полымем, ледзь асьвятляючы бедную і напалову згніўшую хату.

— Мы ведаем: як толькі дачуюцца пілсудчыкі, хто пісаў пра гаротнае жыцьцё працоўных сялян у Заходняй Беларусі—яны пастараюцца выявіць хто мы такія, каб пасьля адпомсьціць нам і нашым бацькам, якія ёсьць у Савецкай Беларусі. Мы радуемся, калі чуем гул трактара на колгасных палёх БССР.

— Ну вось і добра,—гаварыў Бондар канчаючы пісаць і выціваючы канцом сарочкі пот, які буйнымі кроплямі каціўся па твары. Ліст якраз прыдзе туды да 1 мая... Ён будзе нашым вітаньнем братом у БССР.

— Ды паны-ж не прапусьцяць гэткага лісту. Бондар,—адказала селяніну цётка Васіліса, якая з сынам пасьля продажу з таргоў яе хаты часова прымайстравалася ў Бондара.

— Паны не прапусьцяць гэткага лісту,—у другі раз упэўнена ківаючы галавою паўтарыла яна.—А цябе і нас, калі дазнаюцца хто пісаў—у турме запытаюць, з белага сьвету зжывуць.

— Ліст ня пойдзе праз панскія рукі, Васіліса,—хітра падміргнуў сялянцы Бондар.—У нас свая ўласная пошта ёсьць, хутка даставім!

— Ці дойдзе ён да гэтай вольнай краіны, ці пачуюць нас савецкія браты?—Цяжка ўздыхнула цётка Васіліса моцна, прыціскаючы да грудзей басаногага Міколку.

І ажыўляючыся, запальваючыся гневам, дадала:—І аб паліцэйскім Кабылінскім напішы. Яго поўнае прозьвішча пастаў... Хай знаюць там тых, хто зьдзекваецца над намі!!!

V

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чуем, цётка Васіліса!.. Усё чуем!..

---

[1]) Так называюць у Заходняй Беларусі паліцэйскую ўправу. Сяляне з жахам кажуць аб „пастарунках"—дзе іх паліцэйскія часта катуюць...

[2]) Апавяданьне напісана на аснове матэрыялаў, якія атрыманы непасрэдна з Заходняй Беларусі.







Зьверху рэктар БДзУ КАРАНЕЎСКІ, пасярэдзіне галоўны корпус БДзУ, зьнізу батанічны аддзел БДЗУ.

## Х-годзьдзе БДзУ

# Прывітаньні

**Х-ГОДЗЬДЗЕ ВЫШЭЙШАЙ АСЬВЕТЫ БССР—БУЙНЕЙШАЯ ПЕРАМОГА НА ФРОНЦЕ БУДАЎНІЦТВА КУЛЬТУРЫ, НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПА ФОРМЕ І СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПА ЗЬМЕСТУ.**

### БАЛЬШАВІЦКАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ БДзУ АД ЦК КП(б)Б.

Цэнтральны комітэт КП(б)Б у дзень Х-годзьдзя Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту шле сваё бальшавіцкае прывітаньне навукова-выкладчыцкаму, студэнцкаму і адміністрацыйна-тэхнічнаму пэрсоналу.

ЦК улічвае магутную ролю Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту, як першай вышэйшай школы і першага навукова-дасьледчага цэнтру Савецкай Беларусі ў справе разьвіцьця беларускай пролетарскай культуры.

У пэрыод шырока разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва на беларускія Вышэйшыя навучальныя ўстановы падае адказная задача па падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў — спэцыялістаў, здольных стаць камандзірамі соцыялістычнай прамысловасьці, дастаткова ўзброеных марксыцка-ленінскай мэтодолёгіяй.

ЦК упэўнен, што пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, пры напруджанай працы ўсіх адданых соцыялістычнаму будаўніцтву навуковых працаўнікоў і пролетарскага студэнцтва, вышэйшыя навучальныя ўстановы БССР з гэтымі задачамі справяцца.

Партыя чакае ад працаўнікоў БДзУ ўзмацненьня барацьбы з усімі праявамі клясава-варожай ідэолёгіі, з вялікадзяржаўным шовінізмам,—які прадстаўляе на даным этапе галоўную небясьпеку,— контррэволюцыйным нацдэмократызмам і шовінізмамі розных колераў.

Няхай жыве марксыцка-ленінская навука, якая дапамагае рабочай клясе ажыцьцяўляць свае гістарычныя перамогі.

ЯГО СЛАЎНАЙ ГАДАВІНЫ.

* * *

Віншую з Х-годзьдзем БДзУ, жадаю посьпеху ў барацьбе за ўзбраеньне пролетарскіх кадраў конкрэтнымі ведамі па соцыялістычным будаўніцтве, у барацьбе з усякімі антыленінскімі тэорыямі і ўхіламі ад лініі партыі.

В. Кнорын.

* * *

Вітаю працоўных БССР са сьвятам вышэйшай школы. За гэтыя дзесяць год вышэйшая школа БССР стварыла новы маляды актыў — энтузіястаў будаўнікоў соцыялізму, унесла каштоўны ўклад у нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце культуру БССР, залячыла раны, нанесеныя культуры Савецкай Беларусі царскім самаўладзтвам.

Эпоха вялізарнага соцыялістычнага будаўніцтва, якая намі перажываецца, якая патрабуе новых тысяч кваліфікаваных кадраў, ставіць перад вышэйшай школай БССР новыя адказныя задачы, якія, не сумняваюся, яна выканае з гонарам, бальшавіцкімі тэмпамі, пад кіраўніцтвам УсеКП(б) і яе ленінскага ЦК.

А. Енукідзе.

* * *

Вітаю працоўных Беларусі, студэнтаў, навуковых работнікаў в дзесяцігодзьдзем унівэрсытэту. Створаны ў пэрыод разрухі— дзесяць год назад — унівэрсытэт стаў культурна-навуковым цэнтрам БССР.

У абстаноўцы разгорнутага соцыялістычнага наступленьня і клясавай барацьбы апошніх год, унівэрсытэт узмацніўся, як авангард у барацьбе за беларускую культуру — нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце.

Жадаю посьпеху ў далейшай рабоце па ўзмацненьні кузьні пролетарскіх спэцыялістаў Савецкай Беларусі.

А. Бубноў.

* * *

Горача вітаю БДзУ са сьвятам дзесяцігодзьдзя вышэйшай школы Савецкай Беларусі!

...толькі заваёвы Кастрычніка і пасьлядоўнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, забясьпечылі вялізарнае гаспадарчае культурнае соцыялістычнае будаўніцтва БССР, стварэньне кузьні высокакваліфікаваных пролетарскіх кадраў.

Унівэрсытэт і ўсе вышэйшыя школы Беларусі змагаюцца за выкананьне дырэктыў партыі і ўраду, выпускаючы са сваіх сьцен сотні будаўнікоў соцыялізму.

Пажадаю унівэрсытэту з посьпехам разьвіваць работу, выхоўваць новыя кадры, на аснове барацьбы за генэральную лінію партыі, супроць ухілаў яе, барацьбы за няўхільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі, беларускага і іншых шовінізмаў.

А. Чарвякоў.

* * *

Акадэмія навук горача вітае Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт, які ўступае ў другое дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня. Дзесяць год работы Унівэрсытэту, які выпусьціў ужо тысячы байцоў за соцыялізм, бясспрэчна буйнейшая падзея для нацыянальна-культурнага соцыялістычнага разьвіцьця БССР. Толькі пры дыктатуры пролетарыяту, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, было магчыма, што ва ўмовах самай жорсткай гаспадарчай разрухі, дзесяць год таму назад было прыступлена да арганізацыі Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту, які стаў цяпер адным з лепшых унівэрсытэтаў нашага Саюзу і зьяўляецца магутнай зброяй пролетарыяту ў барацьбе за навуку і культуру. Беларуская акадэмія навук выказвае ўпэўненасьць, што і ў далейшым унівэрсытэт будзе даваць пролетарыяту новыя і новыя тысячы бальшавіцкіх байцоў, узброеных ведамі, навукай і тэхнікай.

Дзесяць год работы БДзУ — яркая старонка ў гісторыі пролетарскай барацьбы. Бліжэйшыя гады, на працягу якіх мы павінны перагнаць у тэхнічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны, ускладаюць на унівэрсытэт адказьнейшыя задачы. Акадэмія навук упэўнена, што унівэрсытэт з посьпехам па-бальшавіцку пераможа цяжкасьці, якія стаяць перад ім, і ператворыцца яшчэ больш у магутную зброю пролетарыяту ў барацьбе за соцыялістычнае грамадзтва.

П. Горын.

Прыродазнаўчы корпус БДзУ. Анатамічны аддзел.



# БЕЛАРУСКІ ТРАМ

НАРЫС СТЭЛЬМАХА.



**Макет пастаноўкі „ТРЫВОГА“. Мастак АХРЭМЧЫК.**

Організацыя беларускіх тэатраў рабочай моладзі ў шэрагу гарадоў БССР зьяўляецца вялізарным дасягненьнем комсамолу ў яго рабоце і барацьбе за пролетарскую па зьмесьце і нацыянальную на форме культуру.

Беларускі (Менскі) ТРАМ нарадзіўся не выпадкова, а ў клясавых бойках нашай партыі і комсамолу з беларускім нацдэмократызмам і вялікадзяржаўным шовінізмам на фронце культуры.

Ня гледзячы на свой дзіцячы ўзрост, БелТРАМ'ам прароблена ўжо вялізарная праца. А менавіта: праведзены выезд на вайсковыя манэўры, выезды ў вёскі і колгасы, дзесяткі выездаў у рабочыя клюбы, сады, заводы—дзе праводзіліся масавыя скокі, сьпевы, а таксама концэртныя выступленьні.

Праведзена шэраг масавых вечароў з рабочай моладзьдзю, напісана шэраг песьняў, інсцэніровак, частка з якіх надрукавана ў часопісах і газэтах, а частка ў БДВ. Апрача гэтага, БелТРАМ прымаў удзел у організацыі, у мастацкім абслугоўваньні масавай экскурсіі рабочай моладзі БССР на Украіну. А таксама організаваў агітпроп брыгады на чыгунцы і хлебазаводзе і, нарэшце, напісаў сам і паставіў вялікую пастаноўку „Першы Штандар“.

Азнаёміўшыся з гэтай працай ТРАМ'у, паўстае адразу пытаньне, што-ж такое ТРАМ?

Тэатр?—Не. Драмгурток?—Не. Сіняя блюза?—Не. Гурток зацейнікаў?—Не. Дык што-ж ён нарэшце?...—пытаюць некаторыя таварышы.

— І ні тое і ні гэтае,—адказваем мы,—альбо і тое, і гэтае.

І сапраўды. ТРАМ—гэта ні што іншае, як прызыў ударнікаў у тэатр. Вось тое галоўнае, чым зьяўляецца ТРАМ, і што характарызуецца тым, што малады рабочы, комсамолец, працуючы ля варштату, перабудоўваючы сваю вытворчасьць на соцыялістычны лад—дзеліцца сваім вопытам ударніцтва і соцспаборніцтва праз мастацкае агітвыступленьне з сваёй клясай, прыцягваючы сюды ўсе моманты мастацкага ўзьдзеяньня (малыя формы, вялікія формы, сьвятло, музыку, сьпевы, гульні, цырк, кіно і г. д.).

Вось тая галоўная якасьць, якая ў першую чаргу вызначае ТРАМ.

Другая якасьць ТРАМ'у—гэта профэсіяналізацыя, але яе, бязумоўна, нельга разглядаць асобна ад першай. Яна выцякае з першай, мае з ёй цесную сувязь і зьяўляецца вышэйшай ступеньню першай.

Вось чаму ТРАМ ня толькі тэатр і ня толькі драмгурток, а прынцыпова новы від пролетарскага мастацтва.

Беларускі ТРАМ ужо трэці месяц, як уступіў на гэты шлях профэсіяналізацыі. За гэты час БелТРАМ'ам пастаўлена і напісана вялікая пастаноўка „Першы Штандар“, якая малюе героіку нашых будняў пяцігодкі... Героіку барацьбы рабочай моладзі і комсамолу пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі за бальшавіцкія тэмпы, за ўдарніцтва, за соцыялістычны быт. Гэтая праца БелТРАМ'у, як ужо адзначыў наш друк) „Чырвоная Зьмена“), зьяўляецца каштоўным укладам у Беларускае пролетарскае мастацтва.

Зараз Беларускі ТРАМ працуе над новай вялікай п'есай „Трывога“, Кнорэ, напісанай Маскоўскім ТРАМ'ам. Гэтым спэктаклем БелТРАМ узьнімае трывогу аб недаацэнцы некаторымі комсамольцамі вайсковай небясьпекі, інтэрнацыянальнага выхаваньня, а таксама ставіць востра пытаньне аб будучай вайне і расстаноўцы клясавых сіл у ёй.

БелТРАМ апрацоўвае гэту п'есу на конкрэтным мясцовым матэрыяле.

Гэтую пастаноўку БелТРАМ рашыў ставіць ня толькі з удзелам колектыву, але з удзелам усёй комсамоліі Менску, а таксама вайсковых і грамадзкіх організацый. Дзеля гэтага БелТРАМ прыцягвае да ўдзелу ў пастаноўцы „Трывога“ Асоавіяхэм, вайсковыя часткі і комсамол, якія павінны ўвесь час удзельнічаць у гэтай пастаноўцы—шляхам падбору адпаведнага матэрыялу для гэтай пастаноўкі, шляхам удзелу на чарнавых рэпэтыцыях БелТРАМ'у, а таксама шляхам непасрэднага ўдзелу частак АСО ў спэктаклі.

Пройдзена мала, але зроблена многа. БелТРАМ на верным шляху пролетарскага мастацтва. Аб гэтым і адзначыла Ўсебеларуская трамаўская нарада.

Але гэта, бязумоўна, ня ўсё. Перад ТРАМ'ам стаіць яшчэ шмат задач як тэорэтычных—па лініі аўладаньня марксыцкаленінскай тэорыяй дыялектычнага матэрыялізму, так і практычных—па ўзмацненьні кіраўніцтва самадзейным мастацтвам, а таксама па падвышэньні сваёй мастацкай тэхнікі і г. д.

Ня гледзячы на такую працу, якую прарабіў БелТРАМ, ня гледзячы на такую важнасьць задач, якія пастаўлены перад БелТРАМ'ам—мастацкім агітпропам комсамолу, нашай партыяй і комсамолам, БелТРАМ да гэтага часу працуе ў надзвычайна цяжкіх умовах (без памяшканьня, сродкаў, увагі і г. д.).

Комсамольскія, профэсыянальныя і адпаведныя гаспадарчыя організацыі павінны ня толькі на словах, але і на справе дапамагчы БелТРАМ'у (абкружыўшы яго пільнай увагай) у яго росьце, у яго барацьбе за соцыялістычнае па зьмесьце і нацыянальнае па форме мастацтва.

# Рыгор Мурашка

Гумарэска
Алёшы

Як адукаваны чытач ужо здагадваецца з загалоўку, —яго імя Рыгор, прозьвішча Мурашка.

У некаторых пісьменьнікаў ёсьць яшчэ і псэўдонімы,—гэта робіцца ўдзячнымі сынамі для таго, каб іх пазор ня паў на галовы бацькоў. Рыгор Мурашка псэўдонімаў ня мае. І бацька і дзед і прадзед Рыгора зваліся Мурашкамі і былі сялянамі.

Да чэсьц Рыгора трэба аднесьці, што ён не сароміцца гэтых сумленных людзей і ня пляміць іх прозьвішча.

Рыгор Мурашка нарадзіўся ў 1902 годзе.

... Добра цяпер нараджацца поэтам... .

Толькі, бывае, нарodзіцца які, а яму:

— Будзьце ласкавы, таварыш пісьменьнік, патурбуйцеся, прайдзеце ў дом груднога дзіцяці. Тут зусім побач...

Пасмокча, пасмокча ў доме груднога дзіцяці будучы пісьменьнік, а тады:

— Перавядзеце мяне, кажа, да дарослых у ясьлі. Хачу, кажа, з Аркадзіем Куляшовым пазнаёміцца.

Тут будучага пісьменьніка адразу пад пахі ў ясьлі, ды так:

-- Гадуйся, таварыш пісьменьнік, гадуйся,—Белапп на цябе чакае... Ну і гадуюцца.

... Добра цяпер нараджацца поэтам.

А раней, —было:

— Марыля,—можа яшчэ бог дасьць і ня тое...

— Што ня тое?

— Можа, кажа, і ня тое, бог дасьць і ня родзіцца... млосным ад раласнай надзеі голасам, кажа Цімох.

— А куды яго халера возьме... адказвае Марыля.

А тады, уздыхнуўшы:

— Чым карміць будзем...

Вось так раней нараджаліся...

Хто пад печкай, хто ў таку, —адзін дык нават у хлеве нарадзіўся...

— Вельмі кажа, пісаць хацелася...

Вось так было раней... Так нарадзіўся і Рыгор Мурашка.

Каб гэта было цяпер, дык Рыгор мог-бы адразу і ў пролетарскія пісьменьнікі падацца, але да гэтага ў Рыгора яшчэ ляжалі цяжкія шляхі.

Шлях комуніста, байца чырвонай арміі, шлях грамадзянскай барацьбы, шлях упартай працы над сабою.

І толькі калі франты былі скончаны, Рыгор рашыў падацца ў літаратуру.

Вось як гэта было:

— Кончыў, кажа, Рыгор, я франты, белапалякаў, кажа, разьбіў,— Врангель, кажа, уцёк,— Калчак, кажа, сам застрэліўся, куды, кажа, думаю мне падацца.

А тут, кажа, як агледзеўся—вясна, дні пайшлі срабрыстыя, срабрыстыя, жаваранкі і ўсыя сьпяваюць.

— Падамся, думаю і я ў пісьменьнікі...

Агледзеўся, а яно ня так лёгка ў пісьменьнікі падацца... Пісьменьнікаў у БССР ужо пад тысячу налічваецца...

— Ах, думаю, ну і прайдзісьветы... Запытацца, думаю, іх:

— На франтох былі? Рэволюцыяй займаліся?

Штук пятнаццаць-бы засталося...

Толькі-б тых пісьмен нікаў і бачыў...

Але нічога думаю, яны, думаю, пра васількі будуць пісаць, а я пра рэволюцыю... Знайду, думаю, сабе месца ў літаратуры...

Адважыўся неяк, зайшоў у Дом Пісьменьніка.

— Месца, кажу, для сябе ў літаратуры шукаю...

— У нас, адказваюць, месцы ў літаратуры заняты... дзе хто, адказваюць, сакратаром у аб'яднаньні, дзе хто сябром у праўленьні, дзе хто старшынёю ў згуртаваньні... Штатных, адказваюць, месц няма...

— Ды я ня пра тое... пачаў было Рыгор.

— Вакансій няма! Наадрэз адмовіў нізкі басок.

— А ці ня можна-б так, каб я пісаў і гэтым знайшоў сабе месца ў літаратуры?—з ціхай надзеяй запытаўся Рыгор.

Знайшоўшы сабе месца ў літаратуры нізкі басок пагардліва ўсьміхнуўся і не бяз жэлчы адказаў:

— Мяйсцов нету!.. сказана вам чыстай беларускай мовай.

Рыгор зразумеў што аўдыенцыя скончана, і вышаў. З цяжкім асадкам чалавека, застаўшагася бяз месца.

— Пасьля гэтага, кажа Рыгор, я пачаў пісаць, рашыўшы гэтым нязвычайным для пісьменьніка шляхам знайсьці сабе месца ў літаратуры.

І зусім ужо конфідэнцыяльна Рыгор дадае:

— Буду пісаць, кажа, пераважна романы, бо так многа, кажа, трэба напісаць...

... І няма, кажа, часу пісаць кароткія рэчы.

**Алёша.**

# Поэты ў пародыях

МАГІЛЕЎСКАГА

## ЮЛІ ТАЎБІН

### Браз льянскаму сябру

Сябра мой.
Такі прыгожы месяц,—
Як жа мэсу ня служыць яму?
Я тут столькі тэм накуламесіў
Пра Свеаборг, Мсьціслаў і Батум...
У другіх—інакшыя пуціны;
Мусіць, ты—матрос, як і раней...
Выдавецтву многа я павінен,
Яшчэ болей Выдавецтва—мне.
Усё п'ю ад вечару да ранку,
Зрэдку квасу вып'ю на рагу.
Дзе радок прышчымяць--скажаш: „Санк'ю"
Пераклад ухопіш—„Вэры гуд!"...
І мяне ня варта абнадзейваць—
(пачытаць хоць у старога Гётэ)—
Не зьмяняю на Рыо-дэ-Жанэйро
Ні Таўрыду, ні другія „узьлёты".
Сябра мой!
Хоць ты за многа вынес—
Ня пішы ты болей да мяне:
—„Беларусь—няшчасная краіна,
Калі вершаў Юлькі ня міне".
Ўчора клюб наведаць давялося
І поэму прысьвяціць табе.
Можа й я калі пайду матросам
На якісь ня наскі карабель.
На паперы я блукаў марамі
І наведваў гавані, пар ы,—
Ды вось толькі нашай пекнай рані
Не зла віў шчэ' пробліск залаты...
Завялі ў Вэнэцыю пуціны...
Сябра мой,
Сяджу ў гондоле дня;
І Бразілія—ня дрэнная краіна,
Калі гэты вершык ёй радня.

## МІХАСЬ БАГУН

### Рэвалюцыі ў вяхох

Павеяла смуродам
(сам ня ведаю,
адкуль)...
Я праверыць
хачу
гэту муць.
На жалезны вагар
кладу
руку,
Каб
струмені вады
чуць.
Пэгасы поэзіі
ў стоме
і мыле;
Рэшткі богэмшчыны
трэба
прагнаць.
Калісь Маякоўскага
мы
ня любілі,
Цяпер Маякоўскі
ратуе
нас!
Калі сэрца слабее—
ня дай яму
веры...
Хай у вачох
мільгаціць нешта
ворачава,—
Пальцамі глыбока
праўві
каўнерык,
І выцягні адтуль
чалавечка
чорнага.
Яго,
бы каз уку,
расьцісьні ў п льцах,
Зубамі
раструшчы
труп ягоны,—
І калі
казяўка
нежывою паваліцца—
Цьвёрда
на рэшткі
наступі нагою!
Далоў чалавечкаў!
Пульсацыю
ўзьвей нам.
Паболей ваякаў
жалезабэтоннай
квадры!!!
. . . . . . . . . . . . .
Ідзі-ж,
маё слова,
вытрыманае і надзейнае,
у рабочыя кадры.

Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 3

пад рэдакцыяй А. А. КАСЬПЕРСКАГА і Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

**Задача № 5.**
**Л. Лошынскі і Е. Умноў (Растоў-Дон).**
**„30 дней", II прыз.**



**Белыя:** Kph6, Pe5, Ле4, Cc3 і g6, nh2 (6).
**Чорныя:** KpL4, Фс8, Ла3 і b5, Cb8 і g4 Kd8 і g2, hn: a4, c6, d7, e7, f7, h3(14)

**Мат у 2 хады.**

**Задача № 6.**
**М. Барулін (Масква).**
**З кампазытарскага матчу Масква—Растоў, IV прыз.**



**Белыя:** Крс5, Фа4, Лb2, Cf1 і h6 Ke4 і g2, hn a3, b4, b6, d3 (11)
**Чорныя:** Kpd1, Лb3, Cc2, Ka1, h1, nn: b7, e5, h7 (8)

**Мат у 2 хады.**

---

## Першы міжнародны конкурс
### СКЛАДАНЬНЯ ШАХМАТНЫХ 2-х ХАДОВЫХ ЗАДАЧ
### часопісу „Чырвоная Беларусь"

Шахматная кампозыцыя шпарка разьвіваецца. 7—8 гадоў таму назад складаньнем шахматных задач і эцюдаў у СССР займалася невялічкая група праблемістых, якія ў большасьці былі адарваны ад шахматнага руху. На ўсіх конкурсах складаньня задач і эцюдаў, яны амаль што заўсёды займалі ўсе першыя месцы, бо аспарваць гэтага яшчэ ня было каму. Але з разьвіцьцём шахматнага руху ў СССР пашыраецца і шахматная кампозыцыя. Выходзяць на арэну новыя маладыя праблемісты, выдатнейшыя з якіх: Умноў, Гуляеў, В. і С. Піменавы, Мусуры, Галубеў і іншыя—на задачах; С. М. Камінэр, А. Гурвіч, Т. Горгіеў, А. Гэрбстман, Н. Д. Грыгор'еў і Ф. Сымховіч—па эцюдах, праз год-два дабіваюцца раду першых месц на міжнародных конкурсах складаньня шахматных задач і эцюдаў і вылучаюцца ў першыя шэрагі савецкіх праблемістаў.

Організацыйныя формы Ўсесаюзнага аб'яднаньня аматараў шахматных задач і эцюдаў не адпавядалі мэтам шахматнага руху ў СССР: шахматная кампозыцыя засталася адарванай ад шахматнага спорту — ад соцыялістычнага будаўніцтва. Апалітызм расьцьвіў да крайнасьці. Дайшло да таго, што прозьвішчы савецкіх праблемістаў друкаваліся ў замежных фашыстоўскіх і белагвардзейскіх часопісах і аддзелах у якасьці супрацоўнікаў. І нічога дзіўнага, старшынёю абяднаньня быў вядомы нам па працэсу „ЦК меншэвікоў" шкоднік Залкінд.

Яснасьць унёс апошні пленум шахматна-шашачнага сэктару ВСФК-СССР, які, заслухаўшы даклад Залкінда аб працы аб'яднаньня, пастанавіў: аб'яднаньне распусьціць і забараніў удзельнічаць савецкім кампазытарам у замежнай буржуазнай прэсе.

Перастроіўшыся, шахматныя кампозытары шукаюць новых форм спаборніцтваў: матч кампозытараў Масква-Растоў, па шэсьць удзельнікаў з кожнага боку. Матч каманд піонэрскіх газэт: „Пионерская Правда" (Масква) „супроць Ленинских Искр" (Ленінград) першапачатковыя конкурсы гэтых газэт ахапілі звыш 200 маладых праблемістаў. Усесаюзны чэмпіянат кампазытараў за 1929 г., удзел прымае 24 праблеміста.

### Мэта нашага конкурсу!

1) 100 проц. ахоп усіх савецкіх кампозытараў конкурсам.
2) Прыцягненьне лепшых замежных кампозытараў.

### Лёзунг конкурсу

Усе шахматныя кампозытары СССР—актыўныя ўдзельнікі грамадзкай шахматна-шашачнай працы!

### Умовы конкурсу

1. У конкурсе ўдзельнічаюць усе арыгінальныя 2-гадоўкі на прамыя маты.

2. Конкурс закрыты (гэта значыць, што задачы дасылаюцца пад дэвізамі з прозьвішчам і адрасам аўтара ў асобным конвэрце).

3. Кожны праблемісты можа даслаць неабмяжованы лік задач.

4. За лепшыя задачы вызначана шэсьць прызоў, акрамя гэтага вызначана 4 спэцыяльных прызы і 2 ганаровых водзывы.

I за лепшую задачу праблемісту БССР ня меўшаму адлічча на конкурсах.

II за лепшую задачу праблемісту СССР ня меўшаму адлічча на конкурсах.

III за лепшае правядзеньне тэмы **няпрыметных перакрыцьцяў** (Прыкладам гэтай тэмы зьяўляецца задача № 5 нашага аддзелу. 1. Cg6—h5 пагражае 2 Ad4: g4x. Асноўныя вар'янты. 1... Kg2—e3; 1... Kg2—f4; 1... f7—f5 сапраўды заснованы на „**няприкметных перакрыцьцях**", якія становяцца „яснымі" толькі пасьля матуючага ходу.

IV за лепшы блёк (прыклад задача № 6. 1фа.—d7! Да першага ходу на ўсе хады чорных маюцца гатовыя маты, але белыя ня маюць пачакальнага ходу, што прымушае іх замяніць гатовыя маты на новыя. Да першага ходу на 1... Лb3: d3, быў мат Лb2—b1x. Пасьля першага ходу наступіць 2 Ke4—c3x. Да першага ходу на 1... Cc2: d3, 2 Ke4: c3x. Пасьля першага ходу 1 cf1—e2x).

5. Задачы можна дасылаць да 1-га сьнежня 1931 году па адрасу: Менск, Савецкая, 59, часопісу „Чырвоная Беларусь"— **на конкурс.**

6. Фонд конкурсу 150 рублёў

---

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1931

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Сямнякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь“ будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыоду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

**Умовы падпіскі:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**Падпіска прымаецца:** усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1503. 8.000 экз. Галоўлітбел № 1031